# ПРАДМОВА

Гісторыя сусветнай літаратуры, гісторыя журналістыкі заўсёды былі звязаны з псеўданімамі. Прычын і меркаванняў, якія вымушалі паасобных аўтараў выступаць у друку інкогніта, надзвычай многа. Адны вымушаны былі захоўваць сваё сапраўднае імя ў таямніцы, баючыся ганенняў цэнзуры, другія, каб адвесці ад сябе агонь крытыкі, трэція прыдумлялі сабе розныя прозвішчы пад уплывам моды, іншыя з-за таго, што іх прозвішча супадала з ужо вядомым у літаратуры, некаторыя хаваліся за псеўданім, каб прымусіць публіку гадаць пра яго сапраўднага носьбіта. Той-сёй не хацеў выстаўляць свайго сапраўднага імя з-за сціпласці. Сатырыкі і гумарысты бралі пацешныя псеўданімы, разлічваючы выклікаць адпаведны камічны эфект і г. д.

Тэрмін «псеўданім» уключае ў сябе розныя віды ўтварэння і графічнай перадачы наўмысна выдуманых імён і прозвішчаў аўтараў. Асноўныя разнавіднасці іх наступныя:

а) Уласна псеўданімы (сапраўдныя псеўданімы) або фіктонімы. Гэта формы, якія ствараюць поўнае ўражанне імя і прозвішча аўтара: Янка Купала, Марка Бяздольны (І. Луцэвіч), Якуб Колас, Тамаш Булава, Тарас Гушча (К. Міцкевіч), А. Мсціслаўскі (М. Гарэцкі), Кузьма Чорны (М. Раманоўскі), Міхась Чарот (М. Кудзелька), Гальяш Леўчык (І. Ляўковіч), Зоська Верас (Л. Войцік), Сымон Друк, Янка Кліч, Цішка Гартны (З. Жылуновіч), А. Чэмер, Якім Каліна (А. Бабарэка).

б) Абагульняльныя псеўданімы. У іх сапраўднае імя і прозвішча аўтара заменены ўказаннем на яго нацыянальнасць (Беларус — П. Дземідовіч, Беларус — М. Янчук, Максім Беларус — М. Гарэцкі, Пётра Беларус — П. Яленскі; Litwin — А. Рымша, Białoruska Duda — А. Вярыга-Дарэўскі), тэрытарыяльную прыналежнасць (Сімяон Полацкі — С. Пятроўскі-Сітніяновіч, Мікалаевец — К. Міцкевіч, Янук з-пад Мінска — І. Луцэвіч, Юрка Бусел з-пад Слуцка — Ю. Булгак, Алесь Случанскі — С. Ліхадзіеўскі, С. Койданаўскі — С. Шушкевіч), сацыяльнае становішча (Бэйгар — З. Жылуновіч, Сярожа пастушок — С. Крывец), партыйнасць (Беларус-Камуніст — З. Жылуновіч), спецыяльнасць, пасаду, работу (Старый педагог — Я. Карскі, Падпольнік — В. Харужая, Этнограф — А. Шлюбскі, Уласны дапішчык — З. Жылуновіч, Падарожны — А. Лявіцкі), факты біяграфіі, асаблівасці творчасці і стылю (Алесь Гарун, Сумны — А. Прушынскі, Н. Жальба, Слёзнавокі — А. Бяленка, Янка Журба — І. Івашын) і г. д. Калі да такіх псеўданімаў дадаецца поўнае імя або ініцыял, яны набываюць форму сапраўдных псеўданімаў (З. Капылянін — З. Жылуновіч, Максім Беларус — М. Гарэцкі).

в) Крыптанімы. Яны ўтвараюцца з: 1) ініцыялаў імя або прозвішча, імя і прозвішча, часам імя, імя па бацьку і прозвішча, а таксама пачатковых літар псеўданіма аўтара (І. Л.— І. Луцэвіч, А.— А. Шлюбскі, Б.— М. Багдановіч, Я. К.— І. Луцэвіч, В. Т.— В. Таўлай, Е.— Я. Карскі, Е. Р. Р.— Е. Раманаў); 2) абы з якіх літар розных алфавітаў (В. М.— Р. Шырма, З.— С. Плаўнік, К-А-А — І. Луцэвіч, A. D., Dem.— Ф. Багушэвіч, *S — І. Неслухоўскі); 3) розных скарачэнняў імя або прозвішча аўтара ці яго псеўданіма

(К-а — І. Луцэвіч, Б — і Н.— Я. Дыла, Б — ка А. — А. Бабарэка, Б — ч, Б — віч — М. Багдановіч); 4) анаграм: змешвання літар і складоў імя і прозвішча і прачытання прозвішча ззаду наперад (А. Рэка — А. Бабарэка, В. Нэдбэ — Л. Бэндэ, Акцьуб — Э. Будзька).

Своеасаблівыя формы псеўданімаў — псеўдаандронімы, г. зн. мужчынская форма псеўдаціма для аўтара-жанчыны (Мацей Крапіўка, Гаўрыла, Гаўрыла з Полацка — Алаіза Пашкевіч, Адам Шкіляр — Ванда Лявіцкая) і псеўдагінімы — жаночая форма псеўдаціма, ужытая мужчынамі (Ек. Февралёва — Максім Багдановіч, Ганна Крум — Канстанцін Міцкевіч, Ганна Галубянка — Ігнат Канчэўскі, Ганна Аршыца — Уладзімір Дубоўка, Алеся Гаротная — Аляксандр Шлюбскі).

Псеўданімамі становяцца дзявочыя прозвішчы аўтараў-жанчын, калі яны пераходзяць на прозвішча мужа.

Гісторыя літаратуры ведае выпадкі, калі за псеўданімам або крыптанімам хавалася не адна асоба, а некалькі (Шаўцы, Калектыў шаўцоў — П. Трус, П. Глебка, А. Каратай; Дзед Аўлас — П. Броўка і Я. Скрыган; Лукаш Бандылевіч — П. Броўка і П. Глебка; Я. Лупаты — Я. Брыль, А. Каратай, П. Панчанка, Я. Скурко; І. Сібарсач, Р. Сібарсач — Я. Сіпакоў, Р. Барадулін, Б. Сачанка).

Без расшыфроўкі прыдуманых прозвішчаў не можа абысціся літаратура. Таму ўжо з даўніх часоў у многіх краінах складаюцца спецыяльныя слоўнікі псеўданімаў. Сістэматычны збор псеўданімаў і іх даследаванне пачынаецца з 17 ст. Так у 1652 г. была выдадзена праца І. М. Саўэрса «De vestigiis litteraris, sub quibus nomina intexta sunt» («Пра пісьмовыя сімвалы, што захоўваюць імёны»). У 1669 г. у Лейпцыгу выйшла праца Ф. Гейслера «De nominum mutatione et anonymis scriptoribus» («Пра змененыя імёны аўтараў і ананімы»). Ужо ў 1674 г. у Гамбургу выйшла праца нямецкага юрыста Вінцэнта Плакцыуса «De scriptis et scriptoribus anonymus atque pseudonymus syntagma» («Пра творы і аўтараў ананімных і псеўданімных»), дзе было пералічана каля 10 000 твораў, якія былі выдадзены ананімна або былі падпісаны псеўданімамі. Бібліятэкар Напалеона І Антуан Барб'е ў 1806—1809 гг. выдаў 4-томны слоўнік французскіх псеўданімаў.

Сучасны англійскі слоўнік псеўданімаў (Кенедзі) налічвае каля 60 000 іх, а нямецкі (Хольцмана і Бохата) — каля 83 тысяч. У 1936—1938 гг. быў надрукаваны 3-томны «Слоўнік псеўданімаў і крыптанімаў польскіх пісьменнікаў, а таксама тых, што датычаць Польшчы» А. Бара. Цяпер польскія даследчыкі працуюць над падрыхтоўкай новага 5-томнага слоўніка польскіх псеўданімаў. У Празе выдадзены слоўнікі псеўданімаў А. Даленскага (1934), І. Кунца (1958), у Браціславе «Слоўнік славацкіх псеўданімаў» І. Орміса (1944). Балгарскія псеўданімы сабраў і выдаў І. Багданаў (Сафія, 1961), венгерскія — Пал Гуяш (Будапешт, 1956).

Усходнеславянскія літаратуры маюць таксама свае слоўнікі псеўданімаў: руская — 4-томнае (1956—1960) капітальнае выданне І. Ф. Масанава, якое аўтар складаў 40 гадоў і куды ўвайшло больш за 80 000 расшыфраваных выдуманых прозвішчаў і крыптанімаў. У 1969 г. паявіўся «Слоўнік украінскіх псеўданімаў» А. Дэя — больш за 10 000 раскрытых псеўданімаў і крыптанімаў.

Наша мастацкая літаратура, журналістыка, гісторыя друку таксама вельмі багатая на псеўданімы. У працах беларускіх літаратуразнаўцаў і крытыкаў расшыфраваны многія прозвішчы, пад якімі выступалі ў друку пісьменнікі, журналісты, вучоныя, грамадскія дзеячы, мастакі, артысты. Але ўсё гэта параскідана ў паасобных працах, даследаваннях, артыкулах. Вялікі матэрыял для расшыфроўкі беларускіх псеўданімаў даюць архівы, але яны ў нас пакуль мала даследаваны.

Сістэматычным зборам беларускіх псеўданімаў да гэтага часу ніхто спецыяльна не займаўся. З публікацый, у якіх раскрываецца значная

колькасць псеўданімаў, можна назваць толькі адзіную — бібліяграфічны нарыс Ю. В. Бібілы «Літаратурныя працы Ц. Гартнага», змешчаны ў 1928 г. у кнізе «Цішка Гартны ў літаратурнай крытыцы». Гэта вельмі каштоўная друкаваная крыніца, бо Ю. В. Бібіла раскрыла псеўданімы і крыптанімы пісьменніка, пад якімі ён выступаў у дарэвалюцыйным і савецкім друку, на падставе інфармацыі самога аўтара.

Даследчыкамі беларускай літаратуры раскрыты многія псеўданімы і крыптанімы Я. Купалы (Я. К., Я. К-а, К., К-а, К-а Я., І. К., І. Л., Адзін з «парнаснікаў», «Левы», Марка Бяздольны, Ня-Гутнік, Янук з-пад Мінска, Янук Купала, Здарэнец, Купальскі, Мінчук, Цімох Каруза), Я. Коласа (Адзінокі, Альбуцкі, Андрэй «сацыяліст», Тамаш Булава, Пятрусь Дзягель, Дзядзька Карусь, Дзям'янаў Гуз, Лесавік, Стары Шут, Іван Торба і інш.), М. Багдановіча (Б., М. Б., Н. Б., М. Б-віч, Максім Крыніца, М. Б-ч, Rion, Эхо і інш.), Ц. Гартнага (Авадзень, Авадзён, Жыла, Стары С.-Д., Хадака, Язэп Чырвонь, Сымон Гляк, Я. Смык, Габрусь Друк, Пятро Смык, Зміжыла, Шчыры Беларус, Ц. Г., Д., Д. Ж., З. Ж., Д. Ж-ч, Ж. Х. З., Ж. З. Х.), З. Бядулі (З. Б., З., Б. З., Я — р, Іскра, Святагор, Ясакар, Ярыла Паўстанец, Вартавы, Тутэйшы, Ярыла Чырвоны, Яр), К. Чорнага (М. Р., М. Р-кі, Максім Алешнік, Вясёлы, Ігнат Булава з-пад Турава, М. Сідарэўскі, Раман Талапіла, Арцём Чамярыца, Сымон Чарпакевіч), В. Таўлая (В. Т., В. Тарскі, Юрка Назубіч, М. Гарустовіч, Мсцівец, Паўлюк Сірата, Янка Дванаццаты, Бунтарны, Былы вучань) і многія іншыя.

Зусім нядаўна С. Александровіч значна ўзбагаціў наша ўяўленне пра літаратурную, перш за ўсё публіцыстычную, спадчыну Ф. Багушэвіча, расшыфраваўшы яго псеўданімы (Dem., Demos, Huszicz, B. Huszicz, Ten, Tamten) у польскім часопісе «Kraj», што выдаваўся ў канцы 19 ст. у Пецярбургу.

Нястомны даследчык нашай літаратуры А. Мальдзіс пасля доўгіх і настойлівых пошукаў у архівах і бібліятэках СССР і за мяжою, пасля карпатлівага аналізу зместу розных выданняў, што датычыліся Беларусі і былі выдадзены ў Кракаве ў 80-я гады 19 ст. пад крыптанімам S, прыйшоў да ўстанаўлення аўтарства яшчэ аднаго з твораў Янкі Лучыны «З крывавых дзён. Эпізод паўстання 1863 года на Міншчыне» (Кракаў, 1889).

Беларускія пісьменнікі сталі карыстацца псеўданімамі яшчэ з 16 ст. Гэта былі пераважна пісьменнікі-палемісты, якія выступалі супраць каталіцызму, супраць уніі. Ва ўмовах жорсткай рэлігійна-класавай барацьбы, фанатычна неверагодных ганенняў на ідэолагаў праваслаўя ў Рэчы Паспалітай 16—17 стст. выкарыстанне псеўданімнага і ананімнага выдання палемічных твораў было адзіным ратункам ад суда і кары смерцю. Так, напрыклад, у Брэсце ў 1564 г. была выдадзена ананімна прагрэсіўная на той час брашура «Размова паляка з літвінам пра тое, што ёсць права, вольнасць, або свабода, і пра унію кароны Польскай з княствам Літоўскім».

Адразу ж пасля Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 г. паявіўся антыкаталіцкі рэлігійна-філасофскі і палітычны памфлет «Казанье святого Кирилла, патриархи иерусалимского, о антихристе и знакох его» (Вільня, 1596; перавыдадзены ў 1644 г. у Маскве пад назваю «Книга Кириллова» і ў Гродне ў 1786, 1791 гг. пад назваю «Кириллова книга»), падпісаны імем Стафана Зізанія. Сапраўднае прозвішча аўтара, які быў адным з найбольш папулярных дзеячаў Віленскага праваслаўнага брацтва,— Куколь. Але ён мусіў схавацца за псеўданімам, пераклаўшы сапраўднае сваё прозвішча па-грэчаску — Зізаній.

Выдатным творам антыуніяцкай публіцыстыкі стаў «Апокрысіс» (Вільня, 1597; Астрог, 1598) Хрыстафора Філалета (псеўданім Марціна Бранеўскага). Уздзеянне яго на народныя масы было настолькі вялікае, што ідэолагі уніі пачалі скупляць і знішчаць кніжку.

У 1610 г. Мялецій (свецкае імя Максім Герасімавіч) Сматрыцкі ў Вільні пад псеўданімам «Тэафіл Артолаг» выдаў свой славуты «Фрынас, або

Плач адзінае святое сусветнай апостальскае ўсходняе царквы з тлумачэннем догматаў веры», накіраваны супраць каталіцызму і уніі.

Часам новага інтэнсіўнага пашырэння псеўданімаў на Беларусі стала сярэдзіна 19 ст. Так А. Вярыга-Дарэўскі выдае ў Магілёве на польскай мове паэму «Гутарка пра сваяка» (1858), падпісаную «Białoruska Duda», газету «Мужыцкая праўда» К. Каліноўскі падпісваў «Jaśko haspadar s pad Wilni». Не слабне гэтая хваля ў 70-я гады. Зноў уздымаецца яна ў 80-я гады ў народніцкіх выданнях (напрыклад, брашура «Пісьмы пра Беларусь», 1882 г., падпісаная псеўданімам «Даніла Баравік», адказ на гэту брашуру — гектаграфаваная кніга рэвалюцыйна настроенага нарадавольца Шчырага Беларуса «Пасланне да землякоў-беларусаў», 1884 і інш.), у мясцовай прэсе на рускай мове, напрыклад, газеце «Минский листок», што выходзіла з красавіка 1886 г. і змясціла паасобныя беларускія творы Янкі Лучыны (І. Неслухоўскага), Каруся Каганца (К. Кастравіцкага) і інш. У 90-я гады рэвалюцыйны рух мацнее, ствараюцца шматлікія марксісцкія гурткі, растуць іх выданні. Не раз спатрэбілася карыстацца ў іх псеўданімамі.

У гэты ж час за мяжою выдае свае кніжкі Ф. Багушэвіч, падпісваючыся Мацей Бурачок і Сымон Рэўка з-пад Барысава, Альгерд Абуховіч падпісваецца як Граф Бандынэлі, Антон Лявіцкі — як Ядвігін Ш.

Магутная хваля рэвалюцыі 1905—1907 гг. выклікае да жыцця легальную беларускую прэсу, масавае выданне кніг, календароў. Алаіза Пашкевіч друкуе свае творы пад прозвішчамі Тымчасовы, Банадысь Асака, Гаўрыла з Полацка, Мацей Крапіўка. У «Нашай долі» і «Нашай ніве» друкуецца многа мясцовых карэспандэнтаў, якія выступаюць пад шматлікімі псеўданімамі.

Не спадае мода і патрэба на псеўданімы ў 20—30-я гады ў Савецкай Беларусі. Барацьба за новы быт, новую культуру, новага чалавека, выступленні супраць цемры і забабонаў, прымхаў і папоўшчыны, адлюстраванне ў прэсе складаных умоў класавай барацьбы, вайны з кулакамі і іх падпявваламі, якая часам для сялянскіх і рабочых карэспандэнтаў канчалася трагічна, вымагалі ад мясцовых актывістаў, якія ўзяліся за пяро, неабходнасці хавацца за псеўданімы і крыптанімы.

Партыйная падпольная і легальная прэса КПЗБ і КСМЗБ у Заходняй Беларусі ва ўмовах жорсткай цэнзуры, пастаянных канфіскацый польскай паліцыяй друкаваных органаў аж но да 1939 года літаральна запоўнена матэрыяламі, падпісанымі прыдуманымі прозвішчамі.

Права падпісваць свае творы ў друку псеўданімамі захоўваецца за аўтарамі і сёння. Іх, праўда, ужо менш, чым раней. Рэдакцыі абавязаны берагчы таямніцу аўтараў, якія карыстаюцца псеўданімамі. Але гісторыя літаратуры, літаратуразнаўства, крытыкі, журналістыкі, публіцыстыкі, кнігазнаўства не можа абысціся без расшыфроўкі псеўданімаў і крыптанімаў. Без гэтага яны не могуць развівацца паўнакроўна.

* * *

Псеўданімы і крыптанімы ў гэтым слоўніку размяшчаюцца ў алфавітным парадку. У межах кожнай літары спачатку ідуць крыптанімы, пасля скарочаныя формы прозвішчаў і псеўданімаў, за імі — уласна псеўданімы. У гэтых падгрупах размяшчэнне матэрыялу таксама алфавітнае. Калі, напрыклад, некалькі аўтараў падпісваліся аднолькавымі крыптанімамі ці псеўданімамі, то яны размяшчаюцца ў слоўніку па алфавіту аўтараў. Так, ініцыяламі «А. Б.» падпісваліся А. Багдановіч, А. Войцік, В. Пераход. Яны і ў слоўніку размешчаны паводле алфавіту прозвішчаў.

Агульная структура слоўніка адпавядае прынятай у сусветнай бібліяграфіі сістэме падачы матэрыялаў такога тыпу: 1) псеўданім і яго расшыфроўка (прозвішча, імя і, у нашым выпадку, толькі ініцыял па бацьку

аўтара; 2) месца ўжывання псеўданіма (перыёдыка, паасобныя творы ці ўказанне на час або месца выкарыстання псеўданіма — напрыклад: заходнебеларускі друк 1920-х гадоў, друк БССР 1970-х гадоў і г. д.); 3) крыніца — друкаваная, архіўная, вусная, на падставе якой псеўданім расшыфраваны (часамі даецца некалькі крыніц).

Для размяшчэння псеўданімаў у алфавіце ўзята тая частка псеўданіма, якая па форме з'яўляецца прозвішчам (напрыклад, «Ганна Аршыца» змешчана на «Аршыца, Ганна», «Мацей Крапіўка» на «Крапіўка, Мацей», «Максім Танк» на «Танк, Максім» і г. д.), у скарочаных пседаўнімах і прозвішчах за аснову бярэцца найменш скарочаная частка: «Іл. Бар.» падаецца пад «б», а «Іл. Б.» пад «і», «А. Гр.» — пад «г», «Т. К — ша» — на «к» і г. д.

У рэестры псеўданімаў падаецца прозвішча аўтара, яго імя і ініцыял па бацьку. Поўнасцю ж прозвішча, імя і імя па бацьку аўтара прыводзяцца ў алфавітным паказальніку аўтараў, дзе пералічваюцца таксама ўсе псеўданімы аўтара. У некаторых выпадках будзе трапляцца толькі прозвішча або прозвішча з ініцыяламі, бо поўнасцю расшыфраваць гэтыя ініцыялы пакуль не ўдалося.

Слоўнік складаецца з дзвюх груп графічнага выражэння псеўданімаў і крыптанімаў у друку — гражданкі і лацінкі. У яго ўключаны матэрыялы не толькі з прэсы на беларускай мове, але і з выданняў на рускай і польскай мовах, якія выходзілі ў Беларусі, а таксама псеўданімы і крыптанімы, якімі падпісаны матэрыялы, што датычацца гісторыі беларускага народа, яго культуры, літаратуры, мастацтва, этнаграфіі і фальклору, надрукаваныя на рускай і польскай мовах у розных выданнях і за межамі рэспублікі як у дарэвалюцыйны, так і ў савецкі час.

Мы не змаглі праверыць пэўнасць кожнай расшыфроўкі псеўданімаў. Гэта пад сілу толькі вялікаму калектыву даследчыкаў. Таму ў некаторых выпадках, магчыма, будуць трапляцца недакладнасці, што ідуць ад першакрыніц, паводле якіх расшыфраваны той ці іншы псеўданім. Могуць быць недакладнасці і ў некаторых з тых расшыфровак, якія зроблены на падставе паведамленняў аўтараў. Памяць чалавечая не такая ўжо і надзейная рэч. З цягам часу факты, асабліва калі яны адзінкавыя, сціраюцца, пераблытваюцца.

У слоўніку, акрамя кніжных выданняў, даюцца спасылкі на газеты і часопісы, альманахі і аднадзёнкі, зборнікі і календары, рукапісныя падпольныя і партызанскія выданні і г. д. Апісваючы кніжкі, мы падаём месца выдання і год, таксама звесткі пра перавыданні. Пры апісанні перыядычных выданняў месца выдання называецца толькі пры назвах раённых газет, альманахаў і ў тым выпадку, калі супадае назва (напрыклад, газета «Голас беларуса», што выдавалася ў Вільні і Рызе, часопіс «Вольны сцяг» — у Мінску і Вільні).

Тое, што ў слоўніку называюцца розныя перыядычныя выданні, зборнікі і г. д., у якіх той ці іншы аўтар выступаў пад нейкім псеўданімам ці крыптанімам, яшчэ не азначае, што гэтыя выданні даюцца вычарпальна. Матэрыялы, падпісаныя гэтым псеўданімам, могуць сустрэцца і ў іншых перыядычных выданнях, і ў тут названых, але за другія гады.

Работа над кніжкаю пачалася ў 1961 годзе. Многія пісьменнікі, літаратуразнаўцы, журналісты, працаўнікі розных іншых дзялянак нашай культуры і навукі аказалі мне каштоўную дапамогу пры зборы матэрыялаў. Асабліва ўдзячны за ўдзел у рабоце над кніжкаю, у яе лёсе П. У. Броўку, І. А. Брылю, Д. А. Бяспаламу, Н. Б. Ватацы, Л. А. Войцік (Зосьцы Верас), У. М. Дубоўку, М. Ф. Дубянецкаму, В. Н. Дышыневіч, В. А. Зубу, Г. А. Каханоўскаму, Г. В. Кісялёву, А. С. Лісу, А. А. Лойку, М. Лужаніну, Н. А. Ляшковіч, В. У. Скалабану.

Ніводзін слоўнік псеўданімаў не ў стане ахапіць усе выпадкі скарыстання выдуманых прозвішчаў у друку свайго народа. Не ахоплівае і наша праца ўсіх беларускіх. Многае яшчэ трэба даследаваць, расшыфраваць.

Таму і звяртаюся да ўсіх, хто выступаў калі-небудзь у друку пад псеўданімам або натрапляў у архівах ці публікацыях на расшыфроўку псеўданімаў або крыптанімаў як дарэвалюцыйных, так і савецкіх беларускіх пісьменнікаў, журналістаў, публіцыстаў, грамадскіх дзеячаў, працаўнікоў навукі і культуры, з просьбаю дасылаць матэрыялы, якія не трапілі ў гэты слоўнік, на адрас: 220600, Мінск, вул. Акадэмічная, 15-а, Беларуская Савецкая Энцыклапедыя або 220015, Мінск-15, вул. Янкі Маўра, д. 13, кв. 66. Саламевічу Івану Уладзіміравічу. Усе заўвагі прыму з глыбокай удзячнасцю.

## СКАРАЧЭННІ АСНОЎНЫХ КРЫНІЦ

**Александровіч, 1960** — Александровіч С. Старонкі братняй дружбы. Артыкулы пра літаратурныя сувязі. Мн., 1960.

**Александровіч, 1968** — Александровіч С. Гісторыя і сучаснасць. Літаратурна-крытычныя артыкулы. Мн., 1968.

**Александровіч, 1971** — Александровіч С. Х. Пуцявіны роднага слова. Праблемы развіцця беларускай літаратуры і друку другой паловы XIX — пачатку XX стагоддзя. Мн., 1971.

**Александровіч, 1976** — Александровіч С. Кнігі і людзі. Даследаванні, архіўныя знаходкі, успаміны, эсэ. Мн., 1976.

**Арочка** — Арочка М. Валянцін Таўлай. Крытыка-біяграфічны нарыс. Мн., 1969.

**Багдановіч** — Багдановіч М. Збор твораў, т. 1—2. Мн., 1968.

**Багрова** — Багрова А. П. Беларуская сатырычная літаратура перыяду Вялікай Айчыннай вайны. Мн., 1960.

**Багушэвіч** — Багушэвіч Ф. Творы. Склаў С. Александровіч. Мн., 1967.

**Бандарчык** — Бандарчык В. К. Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст. Мн., 1964.

**Белавежа** — «Белавежа». Літаратурны альманах. № 1, Беласток, 1965; № 2, Беласток, 1973.

**Бел. дакастр. паэзія** — Беларуская дакастрычніцкая паэзія (АН БССР. Інстытут літаратуры імя Я. Купалы). Мн., 1967.

**Бел. дакастр. проза** — Беларуская дакастрычніцкая проза (АН БССР. Інстытут літаратуры імя Я. Купалы). Мн., 1965.

**Бел. каляндар, 1977** — Беларускі каляндар 1977. Беласток, 1976.

**Бел. фальклор Айч. вайны** — Беларускі фальклор Вялікай Айчыннай вайны. Мн., 1961.

**БелСЭ** — Беларуская Савецкая Энцыклапедыя, т. 1—12. Мн., 1969—1975.

**Бернандт — Ямпольский** — Бернандт Г. Б., Ямпольский И. М. Кто писал о музыке. Биобиблиографический словарь музыкальных критиков и лиц, писавших о музыке в дореволюционной России и СССР. М., «Советский композитор», т. 1, «А — И», 1971; т. 2, «К — П», 1974; т. 3, «Р — Ч», 1979.

**Бібіла** — Бібіла Юлія. Літаратурныя працы Ц. Гартнага. Бібліяграфічны нарыс. У кн.: Цішка Гартны ў літаратурнай крытыцы. Да дваццацігоддзя яго літаратурнай дзейнасці. 1908—1928. Мн., 1928, с. 186—212.

**Библиогр. Минского пед. ин-та** — Библиографический указатель печатных работ научных сотрудников Минского государственного педагогического института имени А. М. Горького (1945—1971 гг.). Выпуск I. Мн., 1972.

**Бібліягр. тв. Я. Купалы** — Бібліяграфія твораў Янкі Купалы. Частка I. 1905—1917. Мн., 1955; Частка II, 1917—1942. Мн., 1957; Частка III. 1942—1960. Мн., 1972.

**Борьба трудящихся Зап. Белоруссии** — Борьба трудящихся Западной Белоруссии за социальное и национальное освобождение и воссоединение с БССР. Документы и материалы. Том 1 (1921—1929 гг.). Мн., 1962; Том 2 (1929—1939 гг.). Мн., 1972.

**Бугаёў** — Бугаёў Д. Уладзімір Дубоўка. Крытыка-біяграфічны нарыс. Мн., 1965.

**Булацкий** — Булацкий Г. В. Первые рабселькоры Белоруссии. Мн., 1969.

**Ватацы, 1954** — Ватацы Н. Б. Кузьма Чорны. 1900—1944. Бібліяграфічны даведнік. Мн., 1954.

**Ватацы, 1962** — Ватацы Н. Б. Мастацкая літаратура Савецкай Беларусі (1917—

1960). Бібліяграфія асобных выданняў. Мн., 1962.

**Ватацы, 1964** — Ватацы Н. Беларускае літаратуразнаўства і крытыка (1945—1963). Бібліяграфія асобных выданняў (Дзярж. бібліятэка БССР імя У. І. Леніна). Мн., 1964.

**Ватацы, 1967** — Ватацы Н. Б. Беларуская савецкая драматургія. Бібліяграфія. Мн., 1967 [на тытуле — 1966].

**Ватацы, 1971** — Ватацы Н. Б. Мастацкая літаратура Савецкай Беларусі (1961—1968). Бібліяграфія асобных выданняў. Мн., 1971.

**Гарэцкі, 1920** — Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня, 1920.

**Гарэцкі, 1928** — Гарэцкі М. «Маладняк» за пяць гадоў. Мн., 1928.

**Гарэцкі, 1973** — Гарэцкі Максім. Выбраныя творы. Том першы. Апавяданні і драматычныя абразкі. Мн., 1973.

**ГБДЛ** — Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 1—2. Мн., 1968—1969.

**ГБСЛ** — Гісторыя беларускай савецкай літаратуры. Т. 1—2. Мн., 1964—1966.

**Гілевіч** — Гілевіч Н. С. Акрыленая рэвалюцыяй (Паэзія «Маладняка»). Мн., 1962.

**Говін** — Говін С. В. Друк Заходняй Беларусі (1921—1939 гг.). Мн., 1974.

**ДАКР Ленінгр. вобл.**— Дзяржаўны архіў Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва Ленінградскай вобласці.

**Дварчанін** — Дварчанін І. Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры (ад 1905 года). Вільня, 1927.

**Журавлев** — Журавлев Д. Н. Союз композиторов БССР. Краткий биобиблиографический справочник. Мн., 1978.

**Жыдовіч** — Жыдовіч І. К. Янка Купала — публіцыст. Мн., 1972.

**Зярніцкі** — Зярніцкі М. С. Газета «Звязда» ў барацьбе за перамогу Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Беларусі. Мн., 1957.

**Івашын** — Івашын В. В. Янка Купала. Творчасць перыяду рэвалюцыі 1905—1907 гг. Мн., 1953.

**Иосько** — Иосько М. И. Николай Судзиловский-Руссель. Жизнь, революционная деятельность и мировоззрение. Мн., 1976.

**КАБЛ** — Картатэка аддзела беларускай літаратуры і бібліяграфіі Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна.

**Казека, 1973** — Казека Янка. Няходжанай дарогай. Мн., 1973.

**Казека, 1975** — Казека Янка. Голас часу. Артыкулы, літаратурныя партрэты. Мн., 1975.

**Калеснік, 1959** — Калеснік У. Паэзія змагання. Максім Танк і заходнебеларуская літаратура. Мн., 1959.

**Калеснік, 1962** — Калеснік У. А. Час і песні. Літаратурныя нарысы і партрэты. Мн., 1962.

**Калеснік, 1965** — Сцягі і паходні. Творы паэтаў з былой Заходняй Беларусі. Склаў У. А. Калеснік. Мн., 1965.

**Калеснік, 1975** — Калеснік Уладзімір. Зорны спеў. Літаратурныя партрэты, нарысы, эцюды. Мн., 1975.

**Калеснік, 1977** — Калеснік Уладзімір. Ветразі Адысея. Уладзімір Жылка і рамантычная традыцыя ў беларускай паэзіі. Мн., 1977.

**Карский** — Карский Е. Ф. Белорусы. Т. 1—3. Варшава—Петроград—Москва, 1904—1922.

**Кісялёў, 1963** — Кісялёў Генадзь. Сейбіты вечнага. Мн., 1963.

**Кісялёў, 1971** — Кісялёў Генадзь. Загадка беларускай «Энеіды». Мн., 1971.

**Кісялёў, 1977** — Пачынальнікі. З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст. Укладальнік Г. В. Кісялёў. Мн., 1977.

**Клачко** — Клачко А. М. Цішка Гартны (Крытыка-біяграфічны нарыс). Мн., 1961.

**Клейнборт** — Клейнборт Л. Молодая Белоруссия. Мн., 1928.

**Кнатько** — Кнатько Г. Д. Рукописные издания партизан Белоруссии. Мн., 1979.

**Колас** — Колас Якуб. Збор твораў. Т. 1—14. Мн., 1972—1978.

**Конан, 1968** — Конан У. М. Развіццё эстэтычнай думкі ў Беларусі (1917—1934 гг.). Мн., 1968.

**Конан, 1976** — Конан Уладзімір. Адам Бабарэка. Крытыка-біяграфічны нарыс. Мн., 1976.

**Купала** — Купала Янка. Збор твораў. Т. 1—7. Мн., 1972—1975.

**Купала. Публіцыстыка** — Купала Янка. Публіцыстыка. Мн., 1972.

**Лойка, 1977** — Лойка А. А. Гісторыя беларускай літаратуры. Дакастрычніцкі перыяд. Частка І. Пад рэд. Ю. С. Пшыркова. Мн., 1977.

**Лойка, 1980** — Лойка А. А. Гісторыя бе-

ларускай літаратуры. Дакастрычніцкі перыяд. Частка II. Пад рэд. Ю. С. Пшыркова. Мн., 1980.

**Мальдзіс, 1966** — Мальдзіс А. Творчае пабрацімства. Беларуска-польскія літаратурныя ўзаемасувязі ў XIX ст. Мн., 1966.

**Мальдзіс, 1969** — Мальдзіс А. Падарожжа ў XIX стагоддзе. З гісторыі беларускай літаратуры, мастацтва і культуры. Навукова-папулярныя нарысы. Мн., 1969.

**Мальдзіс, 1974** — Мальдзіс Адам. Таямніцы старажытных сховішчаў. Мн., 1974.

**Масанов** — Масанов И. Ф. Словарь псевдонимов. Т. 1—4. М., 1956—1960.

**Мушынскі** — Мушынскі М. І. Беларуская крытыка і літаратуразнаўства. 20—30-я гады. Мн., 1975.

**Мясникян** — Мясникян А. Ф. Избранные произведения. Ереван, 1965.

**Наднёманскія былі** — Наднёманскія былі. Зборнік артыкулаў і нарысаў. Мн., 1968.

**ПСБ** — Пісьменнікі Савецкай Беларусі. Біябібліяграфічны даведнік. Мн., 1970.

**Пшыркоў** — Пшыркоў Ю. С. Беларуская савецкая проза (20-я — пачатак 30-х гадоў). Мн., 1960.

**Революц. путь КПЗБ** — Революционный путь Компартии Западной Белоруссии (1921—1939). Мн., 1966.

**Рожин** — Рожин Н. В. Газета «Северо-Западный край». Очерк общественно-политической, философской и эстетической позиции. 1902—1905 годы. Мн., 1970.

**Рунь** — Рунь. Зборнік вершаў. Беласток, 1959.

**Самбук** — Самбук С. М. Общественно-политическая мысль Белоруссии во второй половине XIX века (по материалам периодической печати). Мн., 1976.

**Семашкевіч** — Семашкевіч Р. М. Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе (канец XIX — пачатак XX ст.). Мн., 1971.

**Таўлай** — Таўлай В. Творы. Мн., 1961.

**ФБАН БССР** — Фундаментальная бібліятэка АН БССР імя Якуба Коласа. Аддзел рукапісаў і рэдкіх кніг.

**ЦБАН Літ. ССР** — Цэнтральная бібліятэка Акадэміі навук Літоўскай ССР. Аддзел рукапісаў (Вільнюс).

**ЦДАКР БССР** — Цэнтральны дзяржаўны архіў Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва БССР.

**ЦДАЛМ БССР** — Цэнтральны дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва БССР.

**ЦДГА БССР** — Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў БССР (Мінск).

**ЦДГА Літ. ССР** — Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Літоўскай ССР (Вільнюс).

**Церашчатава** — Церашчатава В. В. Беларуская кніжная графіка. 1917—1941. Мн., 1978.

**Цётка, 1934** — Творы Цёткі (Алаізы Пашкевіч). Мн., 1934 (Беларуская Акадэмія навук. Інстытут літаратуры і мастацтва).

**Цётка, 1976** — Цётка. Творы. Укладанне, прадмова і каментарыі С. Александровіча. Мн., 1976.

**Чорны** — Чорны Кузьма. Збор твораў. Т. 1—8. Мн., 1972—1975.

**Шарахоўскі** — Шарахоўскі Я. Пясняр народных дум (Нарыс жыцця і творчасці Я. Купалы). Мн., 1970.

**Шлюбскі** — Шлюбскі А. Матэрыялы да беларускай бібліяграфіі. Т. IV. Этнаграфія. Мн., 1927.

**Шлях паэта** — Шлях паэта. Зборнік успамінаў і біяграфічных матэрыялаў пра Максіма Багдановіча. Склала Н. Б. Ватацы. Мн., 1975.

**Ядвігін Ш.** — Ядвігін Ш. Выбраныя творы. Укладанне кнігі, прадмова і каментарыі І. П. Чыгрына. Мн., 1976.

**Bar** — Słownik pseudonimów i kryptonimów pisarzy polskich oraz Polski dotyczących. Opracował Adam Bar przy współudziale Wł. Tad. Wisłockiego. T. 1—3. Kraków, 1936—1938.

**Brensztejn** — Brensztejn M. Adam-Honory Kirkor — wydawca, redaktor i właściciel drukarni w Wilnie od roku 1834 do 1867. Wilno, 1930.

**Czarkowski** — Czarkowski L. Pseudonimy i kryptonimy polskie. Wilno, 1922.

**Dolindowska, Halaba** — Krystyna Dolindowska, Aleksandra Halaba. Wydawnictwa polskiej lewicy rewolucyjnoj 1918—1939. Katalog (Druki zwarte), (Zakład historii partyi przy KC PZPR. Biblioteka). Warszawa, 1968.

**Jakubowski** — Jakubowski Jan. Tomasz Makowski — sztycharz i kartograf Nieświeski (przyczynek do dziejow sztuki i nauki na Litwie). Warszawa. 1923.

**Pisarze i krytycy** — Pisarze i krytycy. Z recepcyi nowożytnej literatury rosyjskiej w Polsce. Wrocław — Warszawa — Kraków — Gdańsk, 1975.

**PSB** — Polski Słownik Biograficzny.

## АГУЛЬНЫЯ СКАРАЧЭННІ

Авг. — август
Адз. зах.— адзінка захоўвання
Апр. — апрель
Арк. — аркуш
Бел. — беларускі
Библиогр. — библиографический
Бібліягр. — бібліяграфічны
Биол. — биологический
Біял. — біялагічны
Вед. — ведомости
Верас. — верасень
Вобл. — вобласць
Воп.— вопіс
Выд. — выданне
Вып. — выпуск
Газ. — газета
Ганарар. вед. — ганарарная ведамасць
Гг. — гады
Гл. — глядзі
Грамад. — грамадскі
Губ. — губернские
Дек. — декабрь
Дзярж. — дзяржаўны
Дисс. — диссертация
Епарх. — епархиальные
Жн. — жнівень
Зах. — заходні
Зб. — зборнік
Інв. — інвентарны
Інф. — інфармацыя
Інш. — іншы
Канд. — кандидат
Кастр. — кастрычнік
Кн. — кніга
Кр .— крыніца
Крас. — красавік
Л. — Ленінград
Лац. — лацінскае
«ЛіМ» — газета «Літаратура і мастацтва»
Ліп. — ліпень
Лістап. — лістапад
Літ. — літаратурны
М. — Масква
Мн. — Мінск
Нар. — народны
Наст. — настаўніцкая
Окт. — октябрь
Отд. — отдел
Пб. — Петербург
Пг. — Петраград
Пер. — пераклад
Рус. — русский
С. — старонка
Сав. — савецкі
Сак. — сакавік
Сент. — сентябрь
Снеж. — снежань
Сов. — советский
СП БССР — Саюз пісьменнікаў БССР
СПб. — Санкт-Петербург
Спр.— справа
Ст. — стагоддзе
Стст. — стагоддзі
Студз. — студзень
Сш. — сшытак
Т. — том
Укр. — украінскі
Учен. — ученый
Ф. — фонд
Февр. — февраль
Ч. — частка
Час. — часопіс
Чырв. — чырвоны
Чэрв. — чэрвень
Экз. — экземпляр
Янв. — январь

B.m. — без месца выдання
B.m. i г. — без месца і года выдання

# ПСЕЎДАНІМЫ І КРЫПТАНІМЫ ГРАМАДЗЯНСКІМ ШРЫФТАМ

## А

**А.**=Афонскі П.
«Минский листок», 1886—1890-я гг. *Кр.*: «Весці АН БССР». Серыя грамад. навук, 1967, № 3, с. 38.

**А.**=Есакоў Аляксандр А.
«ЛіМ», 1934, № 68; 1935, № 1; 1936, № 27, 50; 1940, № 5; 1941, № 5, 21. *Кр.*: інф. аўтара.

**А.**=Жылуновіч Зміцер Х.
«Дзянніца», 1918, № 20; гл. таксама «Авадзіон».

**А.**=Шлюбскі Аляксандр А.
«Сав. Беларусь», 1923, № 7. *Кр.*: КАБЛ.

**А. А.**=Александровіч Андрэй І.
«Малады араты», 1924, № 87. *Кр.*: КАБЛ.

**А. Б.**=Бабарэка Адам А.
«Сав. Беларусь», 1923, № 137; 1925; «Маладняк», 1926, № 10(1). *Кр.*: Казека, 1973, с. 95; Конан, 1976, с. 32.

**А. Б.**=Багдановіч Адам Я.
«Минский листок», 1886, № 27, 39, 40, 42, 61—66; «Гродненские губ. вед.», 1894, № 28, 31, 33, 44, 45, 47, 52, 58, 63, 67, 72, 75; 1895—1896. *Кр.*: «Весці АН БССР». Серыя грамад. навук, 1967, № 3, с. 38; Бандарчык, с. 220—221.

**А. Б.**=Будзька Эдуард
«Дзянніца», 1916, № 3.

**А. Б.**=Войцік Антон І.
«Заранка», 1927, кн. 1—7. *Кр.*: інф. Л. А. Войцік.

**А. Б.**=Пераход Вячаслаў І.
«Нар. хозяйство Белоруссии», 1922, № 6, 7—8. *Кр.*: інф. М. І. Камінскага; ЦДАКР БССР. Ф. 18, воп. 2, спр. 29а; гл. таксама «Белорус, А.».

**А. В.**=Ажгірэй Анатоль І.
«Малады араты», 1924, № 79; гл. таксама «Вольны, Анатоль».

**А. В.**=Бурбіс Аляксандр Л.
*Кр.*: БелСЭ, т. 2, с. 476.

**А. В.**=Вайцяхоўскі А.
«Сав. Беларусь», 1921, № 60, 62, 68, 70, 77, 79, 80, 81, 149, 204, 205.

**А. В.**=Васілеўскі Антон.
«Авадзень», 1924, № 1; 1925, № 3, 6, 7; 1929, № 1. *Кр.*: інф. А. С. Ліса.

**А. В.**=Войцік Антон І.
«Бел. борць», 1934—1938; «Заранка», 1929, № 2—3; 1931, № 1, 2. *Кр.*: інф. Л. А. Войцік.

**А. В.**=Пальчэўскі Аляксандр В.
«Бел. вёска», 1925, № 78, 82, 86. *Кр.*: інф. аўтара; гл. таксама «Вясковы, Алесь».

**А. В. Ж.**=Жыркевіч Аляксандр У.
«Рус. старина», 1886, № 3. *Кр.*: Масанов, т. 1, с. 35.

**А. Г.**=Гатцук Аляксей А.
«Минские губ. вед.», 1869, № 47. *Кр.*: Масанов, т. 1, с. 36.

**А. Г.**=Гурло Аляксандр К.
ЦБАН Літ. ССР. Ф. 21, спр. 177, арк. 15. *Кр.*: тамсама.

**А. Г.**=Прушынскі Аляксандр У.
«Звон», 1919, № 19; «Беларусь», 1920, № 32. *Кр.*: КАБЛ; гл. таксама «Гарун, Алесь».

**А. Г.**=Шлюбскі Аляксандр А.
«Сав. Беларусь», 1923, № 49.

**А. Д.**=Дубовік А.
«Саветы Беларусі». Дадатак да газ. «Сав. Беларусь», 1928, № 4. *Кр.*: ЦДАКР БССР. Ф. 239, воп. 1, спр. 8, арк. 1079, 1082 (рэдакцыйны экз.).

**А. Е.**=Есакоў Аляксандр А.
«ЛіМ», 1934, № 42, 50, 66, 68; 1936, № 70, 71; 1937, № 60, 64; 1938, № 38; 1939, № 5, 17; 1941, № 19. *Кр.*: інф. аўтара.

**А. Е. М. М.** = Анатолій, епіскап Магілёўскі і Мсціслаўскі.
Вера, Надежда и Любовь... 2 ч. Киев, 1848 і СПб., 1854. *Кр.*: інф. Г. В. Кісялёва; ЦДГА БССР. Ф. 2259, воп. 1, спр. 111.

**А. Ж.**=Жыркевіч Аляксандр У.

*Кр.*: інф. Г. А. Каханоўскага са слоў дачкі А. У. Жыркевіча.

**А. З.**=Занкевіч Аляксандр П.
«Рус. беседа», 1896, окт., ноябрь; Белорусские свадебные обряды и песни сравнительно с великорусскими. СПб., 1897. *Кр.*: Карский, т. 1, с. 330, 456; гл. таксама «З-ч, А.».

**А. З.**=Зіміёнка Анатоль Р.
«Вольная Беларусь», 1917, № 11, 17, 26; 1918, № 4, 6, 20—21; Літ. зборнік «Вольнае Беларусі». Сш. 1. Мн., 1917; «Сав. Беларусь», 1923, № 69, 71. *Кр.*: КАБЛ; асабовая справа Дзеркача А. (А. Зіміёнкі) у СП БССР.

**А. З.**=Зянюк Адольф
«Студэнцкая думка», 1924, № 1. *Кр.*: інф. Л. А. Войцік.

**А. І.**=Ельскі Аляксандр К.
Выбіраймася ў прочкі! Скарэй у Томск! Пб., 1896; Витебск, 1896. *Кр.*: Александровіч, 1971, с. 108.

**А. К.**=Карзухін А.
«Нар. хозяйство Белоруссии», 1922, № 9. *Кр.*: інф. М. І. Камінскага; ЦДАКР БССР. Ф. 18, воп. 2, спр. 29а.

**А. К.**=Кіркор Адам-Гапоры К.
«Рус. инвалид», 1847, № 217, 282; 1848, № 23; «Северная пчела», 1853, № 152; «Рус. ведомости», 1868. *Кр.*: Масанов, т. 1, с. 43.

**А. К.**=Куляшоў Аркадзь А.
*Кр.*: гл. «Ю. Т. і А. К.».

**А. Л.**=Лукашэвіч А.
«Саветы Беларусі». Дадатак да газ. «Сав. Беларусь», 1928, № 3; 1929, № 2, 3. *Кр.*: ЦДАКР БССР. Ф. 239, воп. 1, спр. 8, арк. 1090, 1098 (рэдакцыйныя экз.).

**А. Л.**=Мардвілка Аркадзь П.
«Чырв. сейбіт», 1927, № 10—11. *Кр.*: інф. аўтара; гл. таксама «Лясны, Аркадзь».

**А. М.**=Мардвілка Аркадзь П.
«Маладняк», 1926, № 4, 5; 1927, № 2, 6, 10; «Росквіт» (Мінск), 1927, № 1; «Чырв. сейбіт», 1928, № 1 (20—21). *Кр.*: інф. аўтара.

**А. М.**=Мяснікян (Мяснікоў) Аляксандр Ф.
«Звезда», 1917, № 13; 1919, № 372. *Кр.*: Мясникян, с. 129, 200.

**А. О.**=Оршын Андрэй
«Чырв. Беларусь», 1930, № 5, 6.

**А. П.**=Папоў А.
«Могилевские губ. вед.», 1898, № 89—90. *Кр.*: Масанов, т. 1, с. 54.

**А. П.**=Пятрашкевіч Альфонс Б.
«Наша ніва», 1912, № 17, 32.

**А. П.**=Пятосін А.
«Саветы Беларусі». Дадатак да газ. «Сав. Беларусь», 1928, № 3; 1929, № 2, 3, 4, 5. *Кр.*: ЦДАКР БССР. Ф. 239, воп. 1, спр. 8, арк. 1091, 1093, 1103, 1112, 1121 (рэдакцыйныя экз.).

**А. Р.**= Розаўскі Аляксандр К.
«Полесская газета» 1900-х гг. *Кр.*: Масанов, т. 1, с. 56.

**А. Р.**=Ружанцаў Аляксандр
Подпісы пад малюнкамі і гравюрамі пачатку XX ст. *Кр.*: «Маладняк», 1927, № 10, с. 77; Кацер М. С. Изобразительное искусство Белоруссии дооктябрьского периода. Мн., 1969, с. 195.

**А. Р.**=Рымша Андрэй
Рукапісны аддзел Дзяржаўнай публічнай бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (Ленінград). Шыфр 1.5. № 41. *Кр.*: Гарэцкі, 1920, с. 32; Коршунаў А. Ф. Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. Мн., 1959, с. 328.

**А. С.**= Ліхадзіеўскі Сцяпан І.
«ЛіМ», 1932, № 14. *Кр.:* інф. аўтара; гл. таксама «Случанскі, Алесь».

**А. С.**=Семянтоўскі Аляксандр М.
Памятная книжка Виленского генерал-губернаторства на 1868 год. [СПб], 1868.

**А. С.**=Слупскі Аляксандр І.
«Минский листок», 1886—1894; Северо-Западный календарь на 1893 год. Мн., 1892. *Кр.*: «Беларусь», 1920, № 7, 13 студз.; «Весці АН БССР». Серыя грамад. навук, 1967, № 3, с. 38; Дорошевич Э., Конон Вл. Очерк истории эстетической мысли Белоруссии. М., 1972, с. 305.

**А. С. і В. Т.**=Салагуб Алесь Ф. і Таўлай Валянцін П.
«Звязда», 1931, № 224. *Кр.*: КАБЛ.

**А. Т.**=Тычына Анатоль М.
Подпісы пад ілюстрацыямі і на вокладках часопісаў: «Малады араты», 1925, № 1; «Наш край», 1925—1927; «Бел. піянер», 1926, № 1—4, 9, 11; 1929, № 5; кніг: А. Гурло. Барвенак. Вершы. Мн., 1924; Творы М. Багдановіча. Т. 1. Мн., 1927; т. 2. Мн., 1928; Янка Маўр. Чалавек ідзе. Мн., 1927; Язэп Пушча. Дні вясны. Мн., 1927; Глебка П. Шыпшына. Лірыка. Мн., 1927; Дудар А. Марсельеза. Апавя-

дапні. Мн., 1927; Старко Б. «Марскі чорт». Прыгоды нямецкага парусната крэйсера. Мн., 1927; Гаўрук Ю. Кветкі з чужых палёў. Мн., 1928; Алтаеў А. Да апошняй хвіліны. Апавяданне. Мн., 1928; Арамаў І. Асновы педалогіі. Мн., 1929; Панкевіч П. Гісторыя педагогікі. Мн., 1929. *Кр.*: «Наш край», 1926, № 12 (15), с. 41; «Бел. піянер», 1926, 1929; «Летапіс беларускага друку», 1927, № 5, с. 72, № 424; № 6, с. 94, № 571—572; 1928, № 1, с. 8, № 40; № 2, с. 15, № 84; № 3, с. 25, № 141, с. 27, № 154; № 4, с. 45, № 202; № 6—7, с. 88, № 386; 1929, № 5—6, с. 45, № 229; с. 46, № 232; с. 56, № 290; Церашчатава, с. 24, 36, 37, 92.

**А. У.**, **А. Ў.** = Уласаў Аляксандр М.
«Наша ніва», 1906—1915; «Саха», 1913—1915.

**А. У.** = Ушакоў Андрэй Ф.
«ЛіМ», 1938, № 35.

**А. Ц.** = Цітава А.
«Бел. піянер», 1928, № 12.

**А. Ч.** = Бабарэка Адам А.
«Сав. Беларусь», 1923, № 45, 51. *Кр.*: гл. таксама «Чэмер, А.».

**А. Ч.** = Якімовіч Аляксандр І.
«Бел піянер», 1925, № 11, 12; 1926, № 1, 3, 5, 12; 1927, № 20; 1929, № 1, 16; «Іскры Ільіча», 1930, № 11; 1931, № 1. *Кр.*: інф. аўтара; гл. таксама «Чурылавец, А.».

**А. Ш.** = Шалешка Аўгіння
«Заранка», 1929, № 2—3. *Кр.*: інф. Л. А. Войцік.

**А. Ш.** = Шастакоў А.
«Чырв. Полаччына», 1927, № 57. *Кр.*: «Чырв. Полаччына», 1927, № 64, 66 — працяг таго самага артыкула «Сялянства ў 1917 годзе».

**А. Ш.** = Шлюбскі Аляксандр А.
«Сав. Беларусь», 1923, № 49, 66, 83; 1926, № 294; «Наш край», 1926, № 10—11 (13—14); «Узвышша», 1927, № 1.

**А. Щ.** = Шчукін А.
«Смоленский вестник», 1890, № 79; 1892, № 43, 45, 49, 50; 1894, № 88. *Кр.*: Шлюбскі, с. 25, 59.

**А. Ю.** = Юшкевіч Андрэй
«Наша ніва», 1913—1914. *Кр.*: Бел. дакастр. проза, с. 423.

**А. Я.** = Якімовіч Аляксандр І.
«Бел. піянер», 1925, № 3—5, 7, 8; 1926, № 5; 1927, № 11; 1928, № 5, 6; «Іскры Ільіча», 1931, № 3; 1932, № 18; 1934, № 10; 1935, № 7; 1936, № 2, 3, 5; 1937, № 1, 4—6, 9; 1938, № 6—7. *Кр.*: інф. аўтара; «Бел. піянер», 1925, № 7, змест.

**А. Я. В.** = Васільева А. Я.
«Виленский вестник», 1880, № 246. *Кр.*: Бандарчык, с. 127.

**А-Ва-Дзень** = Васілеўскі Антон
«Авадзень», 1929, № 1. *Кр.*: інф. А. С. Ліса.

**А—віч, А.** = Александровіч Андрэй І.
«Малады араты», 1925, № 6. *Кр.*: КАБЛ.

**А—р** = Пальчэўскі Аляксандр В.
«Бел. вёска», 1924, № 77; «Сав. Беларусь», 1925, № 82, 91; «Малады араты», 1925, № 7. *Кр.*: інф. аўтара; гл. таксама «Аер».

**А-с** = Марголіс Іосіф А.
«Северо-Западный край» 1900-х гг. *Кр.*: Масанов, т. 1, с. 80.

**А—сь, В.** = Пальчэўскі Аляксандр В.
«Бел. вёска», 1924, № 73. *Кр.*: інф. аўтара; гл. таксама «Вясковы, Алесь».

**А-ч**, **А—ч**, **А—ч, М.** = Аляхновіч Мікалай М.
«Сав. Беларусь», 1925, № 14, 126; «Маладняк», 1929, № 8. *Кр.*: інф. А. М. Аляхновіча.

**А—ч** = Ярушэвіч Афанасій В.
«Чырв. шлях», 1918, № 5—6; Цэнтральны дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва СССР (Масква). Ф. 1345, воп. 5, адз. зах. 20, арк. 107— матэрыялы часопіса «Чырвоны шлях» за 1918 г. *Кр.*: інф. В. У. Скалабана; ДАКР Ленінгр. вобл. Ф. 75, воп. 4, спр. 2, арк. 78.

**Ал.** = Аляхновіч Мікалай М.
«Сав. Беларусь», 1925, № 132.

**Ал-іч** = Аляхновіч Мікалай М.
«Сав. Беларусь», 1925, № 130.

**Ан-скі** = Аніхоўскі
«Сав. Беларусь», 1925, № 109.

**Ар-в, В.** = Арсеннеў Васіль С.
«Витебские губ. вед.», 1908, № 204. *Кр.*: Масанов, т. 1, с. 78.

**Ад няведамага Змітра** = Жылуновіч Змітрок Х.
*Кр.*: Беларуская літаратура. Даследаванні і публікацыі. Вып. 2. Мн., 1959, с. 309.

**Ал. Д.** = Дайлідовіч Аляксандр А.

«ЛіМ», 1932, 18 сак.: подпіс пад перакладам на беларускую мову верша С. Стандэ. *Кр.*: Стандэ С. Выбраныя вершы. Пер. А. Дудар. Мн., 1932; Мажэйка А. і Самасейка Л. Сувязі беларускай літаратуры з літаратурамі зарубежных славянскіх народаў. 1906—1962. Бібліяграфія. Мн., 1963, с. 47 [тут подпіс пад перакладам перадаецца недакладна як «А. Д.»].

**Ал. Е.** = Есакоў Аляксандр А.
«Чырв. змена», 1933, № 161.

**Ал. Ш.** = Шлюбскі Аляксандр А.
«Сав. Беларусь», 1923, № 97.

**Ал—іч, Андр.** = Александровіч Андрэй І.
«Малады араты», 1924, № 86.

**Аль-Вэ.** = Вазіла Аляксандр Ц.
«Чырв. шлях», 1918, № 7—8, 9—10; «Бел. криница», 1919, № 1—2. *Кр.*: інф. В. У. Скалабана; ДАКР Ленінгр. вобл. Ф. 75, воп. 4, спр. 2, арк. 74.

**Ан. Ш.** = Шлюбскі Аляксандр А.
«Маладняк», 1927, № 9; гл. таксама «Ал. Ш.».

**Ан-Вас** = Васілеўскі Антон
«Авадзень», 1929, № 1.

**Андр. А.**, **Андр. Ал.** = Александровіч Андрэй І.
«Сав. Беларусь», 1923, № 290; 1924, № 11; «Малады араты», 1924, № 85, 87. *Кр.*: КАБЛ.

**Арт. Г.** = Гардзіевіч Артур А.
«Камуна» (Клімавічы), 1935—1941. *Кр.*: інф. І. Р. Новікава.

**Аш., В.** = Ашмарын Вітольд Ф.
«Звезда», 1920, № 26, 62, 70, 76.

**Абабак, Адась** = Гілевіч Ніл С.
«ЛіМ», 1971; «Маладосць», 1974—1978. *Кр.*: інф. аўтара.

**Абданк, М.**, **Абданк, Михаил** = Грамыка Міхайла А.
Двухнедельник литературы и искусства. М., 1907, № 3; Адэская прэса за 1911—1921 гг. *Кр.*: інф. аўтара.

**Абдзіраловіч, І.**, **Абдзіраловіч, Ігнат** = Канчэўскі Ігнат У.
«Наша думка», 1921, № 22—27; «Бел. ведамасці», 1921, № 14 і інш. заходнебеларуская прэса 1921—1923 гг.; Адвечным шляхам (Даследзіны беларускага светагляду). Вільня, 1921. *Кр.*: ЦБАН Літ. ССР. Ф. 21, спр. 212; інф. У. А. Калесніка; «Новае жыццё», 1923, № 8, 27 крас.; Навуковы зборнік, Беласток, 1964, с. 139; Говін, с. 9, 93 [псеўданім І. Канчэўскага перадаецца недакладна як «Абдзіралавіч»]; Беларуская літаратура і літаратуразнаўства. Вып. 2. Мн., 1974, с. 154.

**Абориген** = Майзель Мірон А.
«Минский листок» 1890-х гг. *Кр.*: «Весці АН БССР». Серыя грамад. навук, 1967, № 3, с. 38; Масанов, т. 1, с. 84.

**Абыватэль** = Еўдакіменкаў Савелій
«Наша ніва», 1910, № 19.

**Авадзен** = Жылуновіч Зміцер Х.
«Дзянніца», 1918, № 1—4; «Сав. Беларусь», 1920, № 21. *Кр.*: КАБЛ.

**Авадзень** = Васілеўскі Антон
«Авадзень», 1933, № 1.

**Авадзень** = Жылуновіч Зміцер Х.
«Дзянніца», 1918; «Сав. Беларусь», 1921, № 6, 14, 25, 33, 35, 50, 56, 74, 78; 1922, № 30; 1923, № 234. *Кр.*: Бібіла, с. 208; КАБЛ; Клачко, с. 87; Александровіч, 1976, с. 132.

**Авадзень** = Іванькoвіч Міхаіл І.
«Бел. вёска», 1929, № 23, 24, 26, 28, 42, 49—50, 55, 123, 147—149; Вясковае люстэрка. Вершы. Мн., 1930. *Кр.*: КАБЛ; ЦДАЛМ БССР. Ф. 66; Ватацы, 1962, с. 98; гл. таксама «Горны, М.».

**Авадзён** = Жылуновіч Зміцер Х.
«Дзянніца», 1918, № 1—3, 5, 8; «Сав. Беларусь», 1920, № 84, 90, 99; 1921, № 29. *Кр.:* Карский, т. 3, вып. 3, с. 334, 447; Бібіла, с. 208; КАБЛ; Клачко, с. 87.

**Авадзіон** = Жылуновіч Зміцер Х.
«Дзянніца», 1918, № 6, 8, 10, 12, 16—20, 23, 25, 28, 43, 44. *Кр.*: КАБЛ.

**Авось, Савось** = Барадулін Рыгор І.
«ЛіМ», 1972, № 46; 1973, № 7, 27, 48, 52; 1974, № 5; 1975, № 17; 1976, № 19, 28; 1977, № 8, 39; 1978, № 2; Дзень паэзіі. Мн., 1965, 1967, 1976, 1977, 1979. *Кр.*: інф. аўтара.

**Аганёк** = Стацкевіч Фелікс І.
«Бел. звон», 1921, № 4; «Бел. летапіс», 1937, № 8—10. *Кр.*: інф. Г. А. Каханоўскага; ФБАН БССР. Ф. 1, воп. 1, спр. 221, арк. 3.

**Агарак** = Міцкевіч Канстанцін М.
«Наша ніва», 1907, № 32; 1908, № 14. *Кр.*: Івашын, с. 63; Пшыркоў, с. 18; Колас, т. 4, с. 323; т. 5, с. 614; Лойка, 1980, с. 209.

**Аглядальнік** = Жылуновіч Зміцер Х.
«Полымя», 1923, № 3—4, 7—8. *Кр.*: інф. І. М. Барашкі.

**Агняцвет**
**Агняцвет, Э.** } = Каган Эдзі С.
**Агняцвет, Эдзі**
«Чырв. змена» з 1929; «Маладняк», 1931, № 6—7, 10; «Бел. работніца і сялянка», 1931, № 11, 27; «Работніца і калгасніца Беларусі», 1931, № 34; 1936—1941; «Іскры Ільіча», 1938—1940; «Полымя рэвалюцыі», 1933, № 10; 1938—1941; «ЛіМ», 1932—1941 і з 1945; «Бярозка» з 1945; «Піянер Беларусі» з 1945; «Вясёлка» з 1957; «Работніца і сялянка» з 1946 і інш. перыядычныя выданні БССР; Маё пакаленне. Вершы. Мн., 1935; Вершы. Мн., 1938; На беразе Волгі. [Паэма]. Мн., 1940; Вясновай раніцай. Вершы. Мн., 1941; Край мой родны. Вершы. Мн., 1945; Васількі. Вершы для дзяцей. Мн., 1947; Дарога ў будучыню. Вершы. Мн., 1949; Песня пра піянерскі сцяг. [Паэма для дзяцей]. Мн., 1949; Ля піянерскага кастра. [Вершы]. Мн., 1952; Мой сябра. [Вершы]. Мн., 1954; Будзем сябраваць. [Вершы]. Мн., 1955; Тваё таварышы. [Вершы]. Мн., 1957; Госць з далёкай зямлі. [Вершы]. Мн., 1958; Беларуская рабіна. [Вершы і паэмы]. Мн., 1959; Незвычайныя канікулы. Вершы і паэмы. Мн., 1962; Лірыка. Мн., 1965; Круглы год. Выбранае. Мн., 1966; Першы ліст. [Вершы для дзяцей]. Мн., 1966; Падарожнік. Мн., 1969; Піянерская гама. Вершы і паэмы. Мн., 1970; Жаданне. Лірыка. Мн., 1971; Выратаваны сцяг. Мн., 1972; Краіна маленства. [Вершы і паэмы]. Мн., 1975; Выбраныя творы, т. 1—2. Мн., 1976; Мы сур'ёзныя, мы вясёлыя. Мн., 1976; Доктар Смех. Мн., 1977; Будзем сябраваць. [Паэма]. Мн., 1979, *Кр*.: Ватацы, 1962, с. 12; Ватацы, 1964, с. 157; БелСЭ, т. 1, с. 76.

**Агонь** = Засім Мікалай А.
«Наша праўда», 1927, № 21; «Зара працы», 1928, № 2, 5. *Кр*.: Калеснік, 1962, с. 180; БелСЭ, т. 4, с. 505.

**Аграном П. Л.** = Ластоўскі П.
«Бел. работніца і сялянка», 1928, № 4(42).

**Адам** = Гедвіла Адам (?)
«Наша доля», 1906, № 5, 6.

**Адзін з «парнаснікаў»** = Луцэвіч Іван Д.
«Наша ніва», 1913, № 30. *Кр*.: «Полымя», 1927, № 8, с. 157; Івашын, с. 80; Янка Купала. Семінарый. Мн., 1963, с. 28; Шарахоўскі, с. 120; Купала. Публіцыстыка, с. 269; Бібліягр. тв. Я. Купалы, ч. III, с. 339.

**Адзінокі**
**Адзінокі, К.** } = Міцкевіч Канстанцін М.
«Наша ніва», 1907, № 29; 1908, № 14. *Кр*.: Пшыркоў, с. 18, 333; Колас, т. 1, с. 528; Лойка, 1980, с. 209.

**Адраджэнец, Лявон** = Салагуб Аляксандр Ф.
Рукапіс верша, які зберагаецца ў Г. А. Каханоўскага (Маладзечна). *Кр*.: інф. Г. А. Каханоўскага са слоў сястры А. Салагуба.

**Адхонны, Андрэй** = Таўбін Юдаль А.
«Нёман», 1932, № 1. *Кр*.: ЦБАН Літ. ССР. Ф. 21, спр. 270, арк. 2—3, 7.

**Аер** = Пальчэўскі Аляксандр В.
«Бел. вёска», 1924—1928; «Сав. Беларусь», 1924—1928. *Кр*.: інф. аўтара.

**Азерскі, С.** = Семяняка У.
«Сав. Беларусь», 1928. *Кр*.: ЦДАКР БССР. Ф. 239, воп. 1, спр. 8а, арк. 34.

**Азовский** = Мабо Міхаіл М.
«Минское утро», «Лесной вестник». *Кр*.: Масанов, т. 1, с. 90.

**Айвазаў, І.** = Гутараў Іван В.
«ЛіМ», 1948, № 17. *Кр*.: інф. А. С. Фядосіка.

**«Аксана»** = Кепель Аксана М.
«Заранка», 1929, № 2—3 (15—16). *Кр*.: інф. Л. А. Войцік.

**Акцьуб** = Будзька Эдуард
«Дзянніца», 1916, № 1—2, 4—7. *Кр*.: «Веснік БДУ». Серыя IV, 1969, № 3, с. 18.

**Акцюб** = Будзька Эдуард
«Наша будучына», 1922, № 1; гл. таксама «Акцьуб».

**Акша** = Ажгірэй Анатоль І.
«Сав. Беларусь», 1925, № 40. *Кр*.: памылка друку, гл. таксама «Алёша».

**Алек де-Базиллини** = Вазіла Аляксандр Ц.
«Чырв. шлях», 1918, № 1—6. *Кр*.: інф. В. У. Скалабана; ДАКР Ленінгр. вобл. Ф. 75, воп. 4, спр. 2, арк. 77.

**Алекса, Пал.** = Асіповіч Павел
«Нар. звон», 1930; «Шлях моладзі», 1930, № 8—9 (18—19), 12 (22). *Кр*.: інф. Г. А. Каханоўскага.

**Александраў, Е.** = Есакоў Аляксандр А.
«ЛіМ», 1936, № 71; 1937, № 62. *Кр*.: інф. аўтара.

**Алексеев, А.** = Петрашкевіч Аляксандр Л.
«Сов. Белоруссия», 1959; «Правда»,

